люты 1932 г.



# ФАШЫСТОЎСКІЕ ЗАКУСЫ НА Т.Б.Ш.

Польскі акупацыйны фашызм,душачы працоўных З.Б.эканамічна накладаючы усё новыя і новыя падатковыя цяжары,праводзячы камасацыю,ліквідацыю сэрвітутаў,шарваркавыя прыгоны,руйнуючы сялян штрафамі,пратаколамі,адбіраючы зямлю ад сялян і батракоў і аддаючы яе вайсковым асаднікам,душыць таксама і усялякі голас пратэсту працоўных,стасуючы да іх крывавы тэрор.

Здушыўшы палітычные нацыянальна-вызваленчые арганізацыі працоўных З.Беларусі,як"ГРАМАДА,ЗМАГАНЬНЕ",якія вялі барацьбу за вызваленьне працоўных з пад фашыстоўскага ярма,прыступіў да здушэньня і апошние легальнае арганізацыі працоўных ТБШ.

З гэтай мэтай злучаны польска- беларускі фашызм павеў атаку на ТБШ.з двух бакоў.Стасуючы самы дзікі тэрор да паадзельных гурткоў,Акружных Упраў і Галоўнае Управы,закрываючы іх за актыўную працу і садзячы найсьведамейшых і найакцыўнейшых яе сяброў за краты фашыстоўскіх казэматаў,не даючы працоўным весьці працы і барацьбы за свае сацыяльные ,нацыянальные і культурные правы,з аднаго боку;стараецца захапіць яе у свае рукі і зрабіць зТБШ.вогнішча фашызацыі і палянізацыі,якая бы падгатаўляла грунт для будучае вайны з СССР.

З гэтай мэтай фашызм пры помачы сваіх агэнтур Санацыі,Хадэцыі і Сельсаюза садзіць сяброў Гал.Управы у турму пад закідам тварэньня камуністычнае фракцыі на тарэне Гал.Управы,каб гэтым застрашыўшы іх па вылушчэньні высьці перагаворы адносна захопу ТБШ. у свае рукі.

[illegible],Астроўскіе,Станькевічы,Ярэмічы на дырэк[illegible] [illegible] у асобах Багдановіча Уласава на перагаворы з сябрамі Гал.Управы на "прыватные" гарбаткі,у часе якіх прапануюць ім адказацца ад працы у Гал. Управе і вызначыць дачасную камісію у складзе Уласава,Грышкевіча і Стацкевіча,г.значыць санацыйна-хадэцка-сельсаюзніцкая большасьць.Аднак сябры Гал.Управы памятаючы працу падобнае дачаснае камісіі у 1928 годзе,якая давядах ТБШ.да занепаду зачыніўшы пад дыктоўку дэфензывы больш 100 гурткоў і 5 Акр.Упраў,ведаючы, што і гэтая дачасная Камісія павядзе такую самую працу як і першая,не згадзіліся на гэтую прапанову а узяліся за працу на скліканьне агульнага зьезду ТБШ., дзеля выбару Галоўнае Управы і устанаўленьня далейшае працы праграмовай.

З гэтай мэтай была паслана дэлегацыя да ваяводы праз Гал.Упр. адносна дазволу на зьезд,але без пазытыўнага высьледку і толькі на трэці раз згадзіўся з умовай,калі зьезд выбярэ у Гал. Управу тых асоб,якіх скажа ваявода,але калі на гэта не згадзіліся то папрасіў сваю кандыдатуру у Гал. Управу ад цяперашняе Управы.Гэты сьпіс дэлегацыя разам з ваяводаю намеціла і ён патрабаваў,каб паручыліся што гэтыя асобы абавязкова пройдуць,у чым звычайна дэлегацыя адказала няпэўнасьцю.

З гэтага кароткага агляду ясна,што фашызм пры помачы агентаў Луцкевіча,Астроўскага,Уласава,Багдановіча хацеў захапіць Гал.Управу у свае рукі,а"прыватные"гарбаткі ,згода на накінутых праз ваяводу кандыдатаў у склад новае Гал.Управы,перагаворы з старшынёю бэбэхаўскага саюзу,сьведчыць аб тым хіста-

---

ньні якое пануе сярод сяброу Г.Упр. так характэрнае для дробна-буржуазнае інтэлігенцыі пад страхам тэрору.

Бачучы гэта працоуныя у адказ на наступ фашызму і яго закусы захапіць ТБШ у свае рукі, зрабіць з яе пляцоуку фашызму, павінны згуртаваць усе свае сілы у абарону ТБШ, змоцніць яе арганізацыйна, масова уступаць у гурткі ТБШ, пашырыць іх сетку так каб ня было ні аднаго кутка на ЗБ без гуртка Т-ва, выкінуць з яе радоу агентау санацыі як Тарасэвіч, Сідаровічы і інш. Актывізаваць працу у кірунку змаганьня за родную школу, за бібліатэкі-чытальні, за народные дамы, за курсы для напісьменных, за беларускіе сьпектаклі. Завязаць гэтую барацьбу з агульнай нац.-вызваленчай барацьбой, усіліць барацьбу супроць польскага акупацыйнага фашызму і яго агентау Санацыі, Хадэцыі і Сельсаюза, склікаць масовые сходы пратэсту проці захвату ТБШ фашызмам, проці Луц., Аст., Улас., Багд. і інш. агентам фашызму і іх закусам, дамагаючыся сваіх нацыянальных, сацыяльных і культурных правоу.

Сяньня як ніколі працоуные павінны востра сачыць за усімі праявамі палітыкі фашызму і даваць найактыунейшы адпор яго наступу.

Даволі прачытаць прамову міністра Перацкага і бэбэхаускага пасла "прадстауніка" ЗБ Шыманоуска на адношаньню да Зах.Укр. і Зах.Бел. поуныя абяцанак як сацыяльнага, так і нацыянальнага зьместу для укр. і бел. буржуазіі, як усім ясна стала, што фашызм шляхам абяцанак і законау на паперы, а нават і школьных уступак для укр. хоча аб'еднаць і прыцягнуць украінскіе бурж. партыі на свой бок і здушыць пры іх помачы магутны нац.-вызваленчы рух працоуных Зах. Укр. за асвабаджэньне ад уціску, тэрору і гвалту фашызму і падгатаваць такім чынам грунт для вайны проці дзяржавы працоуных СССР.

Безумоуна што усі гэтыя абяцанкі ёсьць ні чым іншым як манэурам акупацыйнай улады для перацягненьня буржуазіі на свой бок, якая здольна прадацца так танна і пайсьці рука у руку з фашызмам польскім душачы працоуных, аб чым ясна сьведчыць канферэнцыя у Львоускага ваяводы, дзе прадстаунікі усіх украінскіх сац. і нац. фашыстоускіх партыяу пеялі песьні за польска-украінскую супрацу.

У адказ на аб'еднаньне буржуазіі для душэньня руху працоуных, працоуные усіх уціснёных нацыяу павінны цесна зьліцца у барацьбе проці буржуазіі за свае правы.

---------

## Ф А Ш Ы З М .

Многіе чуючыя слова фашызм бяз'адкладна пераносяцца у Італію, дзе пануе Мусаліні са сваей фашыстауская арганізацыяй, але не бачуць таго праудзівага фашызму схаванага за шыльдам "дэмакрацыі" у сваім краі у ягоных розных праявах.

Гэта есьць вынікам нязнаньня сутнасьці фашызму; чым ён зьяуляецца, на чым будуецца і які яго падклад. Ня толькі шырокі агул працоуных, але і яго актыу не разумее запраўднага фашызму і робіць вельмі цяжкія для направукі памылкі. Прыкладам майскі пераварот Пільсуцкага і яго ваеннай камарылі, калі цэнтральныя кіраунічыя органы працоуных паклікалі рабочых і сялян з аружжам у руках на помач Пільсуцкаму. І не глядзючы на тое, што у цэнтральным кірауніцтве існавалі лягеры большасьці і меншасьці, аднак што да пытаньня помачы Пільсуцкаму прышлі да згоды і апамяталіся толькі тады, калі кат Пільсуцкі па захваце улады загадаў здушыць мітынг рэвалюцыйных работнікау за чале з рэвалюцыйным паслом. Калі пралілася кроу толькі тады кірауніцтва зразумела сутнасьць фашызму Пільсуцкага.

Каб запабегчы падобнага рода памылкам, неабходна сачыць за усімі праявамі фашызму і зразумець яго сутнасьць. Вучыць і сачыць за праявамі фашызму трэба рабліва пільна і востра трымаць вуха, памятаючы адно; што каб захаваць пануючую сыстэму і уладу буржуазіі, фашызм не шкадуе найпрыгажэйшых слоу і самых радыкальных здань, выстауляючы лезунгі па свайму зьместу здавалася-бы у ідэалогіі працоуных / што фактычна ня так/, а таму трэба хутка і эластычна падыйсьці і раскрыушы іх фальш паказаць масам іх запраудная абліччa.

Калі заглянуць у кнігі і пашукаць там тэорытычных падстаў фашызму, то знайсьці штось цэлае нам не удасцца. Многіе з буржуазных тэорэтыкау паказваюць толькі тые момэнты на якіх апіраецца фашызм. Досыць успомніць Сэн-Сімона, Джэнсана, Кауцкага, якіе у сваіх тэорыях вывадзілі як ідэальны палітычны лад на будучыню якраз зьяуляўшыся фашызм. Утапіст Сэн - - Сімон гаварыу што улада у дзяржаве павінна належаць да клясы працоуных, аднак не гавора пралетарыяту, а пад словам працоуных разумее так-жа банкірау, абшарнікау і фабрыкантау, якіе па яго разуменьню таксама працуюць / па кафэшантанах і дамах разврату/.

Гэткую плятформу мае сягоньняшні фашызм. Прызнаючы на славах што рабочые і сяляне маюць правы вольных грамадзян, маюць права на дапамогу з боку дзяржавы пад час бязпрацоуя, не павінны быць эксплятаваны, маюць права на уладу, абяцаюць рай на зямлі, але патрабуюць перачакаць гаспадарчую дэпрэсію, крызыс, памагчы адбудаваць дзяржаву і тагды толькі усе палепшане работнікам і сялянам зьдзейсніцца.

Сыплючы у самы наглы спосаб дэмагогічныя зданьні, прыймаючы самае радыкальнае абліччa фашызм выкарыстоувае пралетарыят і сялян дзеля свае мэты - утрыманьня улады у руках буржуазіі, утрыманьне імпэрыялістычнае сыстэмы вытворчасьці і спажыцьця. З гэтай мэтай расплаюцца фашызмам агенты розных колярау, дзеля абаламучываньня працоуных і апіраючыся на апошніх эксплятаваць іх і адцягваць ад праудзівага шляху вызваленьня з адвечных ланцугоу. Граючы на найбольш пякучым пытаньні сацыяльным фашызм забывaецца аб нацыянальных пачуцьцях працоуных выкарыстоуваючы яго дзеля сваіх мэтау.

Паны Кауцкіе і Джэнсоны, жывучы у эпоху імпэрыялізму і хх бачучы яго сударгі пасьля уздыму і пяяўшы аб наступаючым раі, прыносячы лауровыя вянкі імпэрыялізму, хутка пераканаліся, што імпэрыялізм ня ёсьць спосабам спасеньня людзкасьці, спосабам, ці сыстэмай якая-б зьнішчыла крызысы прамысловыя і палітычныя, а наадварот што з развіцьцём імпэрыялістычнае сыстэмы крызысы яшчэ больш паглыбляюцца, радыкалізацыя працоуных узрастае і пагражае існаваньню буржуазіі і яе сыстэмы.

Яны пачалі шукаць выхаду, які хутка "знайшлі". Джэнсон, бачучы што імпэрыялізм ня здольны зьнішчыць усе тыя супярэчнасьці, якія існуюць у самай сыстэме і што гэтыя супярэчнасьці яшчэ больш паглыбляюцца, а насьледак іх эканамічныя і палітычныя крызысы, войны, буйны узрост рэвалюцыйнасьці працоуных гушчау, заастрэньне барацьбы з народамі калёніі, якія шыбкім тэмпам абуджаюцца і дамагаюцца сваіх правоу, находзіць выхад у так зв. ультраімпэрыялізме, новай сыстэмай пасьля імпэрыялізма.

Кауцкі бязпардонны абаронца буржуазіі, з маскай пралетарыя, стараючысь затушоваць сутнасьць імпэрыялізму, называючы яго толькі палітычнай сыстэмай улады буржуазіі, карыстаючысь сацыяльнай і нацыянальнай дэмагогіяй, каб адцягнуць працоуных ад беспасрэднай барацьбы апошніх з буржуазіяй, - піша што імпэрыялізм павінен перарасьці у будучыне у інтэрімпэрыялізм. Але гэта будзе, кажа рэнэгат Кауцкі, тады, калі усе народы дойдуць да паразуменьня і пачнуць побач жыць па брацку, як роуныя з роунымі, зьнішчыушы эксплёатацыю мацнейшымі слабейшых, аднаразова прызнаючы гэгемонію нацыі больш развітай культуральна і эканамічна. Пры такой сыстэме, кажа далей, будзе панаваць мір і зьнікнуць тыя супярэчнасьці, а з іх і вынікаючыя вынікі.

Як бачым прадстаунік чорнай палоуской рэакцыі ангельчынін Джэнсон і прадстаунік II інтэрнацыяналу Кауцкі, якія тэндэнцыйна называюць сябе марксістамі, сьпяваюць на адзін лад. Розьніца між імі хіба у тым, што Джэнсон шырока ужывае радыкальнай дэмагогіі, у той час, як Кауцкі не ужывае, розьніцца ад Джэнсона у тэрмінах, а ня зьместам. Калі прыглядзецца да сяньняшняга фашызму і яго нацыянальнай палітыкі, то мы убачым усе тое што гаварылі паны Кауцкіе і Джэнсоны. Карыстаючысь нацыянальнай дэмагогіяй, прыкідваючы да братняга спажыцьця усіх народау, фашызм гэтым самым хоча задзяржаць уладу /згубу/ буржуазіі і яе імпэрыялістычнай сыстэмы.

Сяньняшняя палітыка Пілсудзкага у нацыянальным пытаньні ёсьць палітыкай чысьцейшай марлі фашызму. Насеньне нацыянальных антаганізмау, спажыцьце усіх нац. меншасьцяу Польшчы пад крылом нацыі польскай, як болей моцнейшай культуральна і эканамічна, даць правы эксплёатацыі гэтых нац. меншасьцяу буржуазіі польскай, разам з буржуазіяй меншасьцяу, аб'яднаньне усіх сіл буржуазіі, дзеля барацьбы з агульным іх ворагам працоунымі, вось да чаго зводзіцца фашызм польскі у галіне нацыянальнага пытаньня. Тое самае мы убачым на агульна міравым

---

гарнізонце, калі заглянем у Амэрыку, Італію, Баугарыю, Мад'-
яршчыну, Нямеччыну Гітлерызм/ і іншые дзяржавы. Усюды мы
пабачым тое самае, а закулісная палітыка гэтых дзяржау сь-
ведчыць аб інтэрнацыянальным характары фашызму, а не аб
чыста нацыянальных праявах жыцьця, як гэта думаюць многіе
таварышы, калі пры гутарцы аб фашызме пераносяцца у Італію,
не бачучы яго у сябе дома.
Праяуленьне фашызму у паасобных дзяржавах з яго пры-
гожасьцямі не адначасовае: у адной хутчэй, у другой пазь-
ней. Прычыны гэтага наступные: I/ моцны-буйны узды рэва-
люцыйнай хвалі працоуных і актыуная барацьба іх за уладу;
2/ эканамічнае і палітычнае палажэньне дзяржавы; 3/ за-
лежнасьць не ад другіх дзяржау; 4 каленіяльная палітыка;
5/ сіла самой буржуазіі і яе уплыу на рух працоуных.
Калі вернемся у Італію, то пабачым што у 1922 г. там
быу магутны рэвалюцыйны уздым рабочых, на фабрыках патва-
рылі саветы, павывешвалі чырвоные сьцягі, і толькі дзякую-
чы апартуністычнай палітыцы кіруючай партыі сацыял- дэмок-
рацыі, будучай на услугах буржуазіі не хацела ды і не маг-
ла павесьці пралетарыят да захопу улады у свае рукі, а за-
граунага кіраунцтва камуністычнай партыі тады яшчэ ня
было, а калі і было, то толькі у сваім зародку і не магла
захапіць руху у свае рукі. Адсутнасьць геніяльнага кірауні-
ка, як у Расеі Ленін, спрыяла паходу Мусаліні на Рым, а
падобнае кіраунцтва Менюдяго дапамагло фашызму захапіць
уладу і уратаваць гінуучую буржуазію, крывавым тэрорам па-
магло расправіцца з рабочымі саветамі, здушыць дзікім тэ-
рорам усякую праяву пратэсту і жаданьне працоунае клясы.
Тое самае мы бачым у Баугарыі, тое і у Вэнгрыі, тое бы-
ла і у Расеі пад час карнычніка, калі фашыста Савінкау
хацеу згуляць роль расейскага Мусалінага і толькі дзякую-
чы моцнай рабоча-сялянскай партыі і геніяльнасьці кірауні-
ка яе Леніна, гэтые закусы не удаліся. Так, як відаць з
усяго вышэй напісаннага фашызм карыстаючыся самай наглай
сацыяльнай і нацыянальнай дэмагогіяй, зьяуляецца вельмі
эластычным і здольным мяняцца у залежнасьці ад патрэбы і
прыстасавацца да патрэб штодзенных, выстауляючы лезунгі
адпаведные да моманту, стараючыся уплываць на працоуные
групы і павясьці іх за сабой як асноуную апору буржуазіі
даючы разные абяцанкі арганізоуваючы праф. саюзы пад кі-
раунітвам фабрыкантау абшарнікау і іх слугау, не зьяуля-
ецца якоюсь новаю эрай у жыцьці грамадзянства, бо калі-б
было так, то мусіу-бы зьмяніць цэлую эканамічную сыстэму,
адных зьмены гэтае пры фашызме няма.
Не зьнуляецца фашызм таксама якоюсь партыяй, бо каб та
то мусіу-бы мець пэунук праграму, аднак такой няма. Чым
зьяуляецца фашызм. На гэта пытаньне легка адказаць. Фашы
есьць навейшая форма палітычнай улады скансалідаванай бу
жуазіі, шляхам дыктатуры фінансавага /буйнага/ капіталу
на нежарысьць дробнай буржуазіі трымаючайся на сіле шт...
коу войска і паліцыі, ...ыгодамасьці працоунай клясы, ...
стаушы на руінах /развалінах/ імпэрыялістычнае сыстэмы
тварчасьці з аднаго боку і магутным рэвалюцыйным уздым

працоуних усяго сьвету. Карацей, фашызм есьць апошняя ста-
дня улады буржуазіі знаходзячайся у прадсьмяротных судар-
гах, немінуюча вядучы да свае згубы, ці карацей, фашызм е-
сьць палітычная надбудоука імпэрыялізму.

Кожны працоуны хочучы болей і дэтальней пазнаеміцца з
рухам фашыстоускім, яго праявамі і падкладкай павінен заг-
лянуць на рух нямецкага фашызму Гітлера, які лоўка пристаxxxx
саваўся да тых умоў у якіх ён знаходзіцца. Асноўныя пытань-
ні гітлерызму есьць: барацьба з рэвалюцыйным пралетрыятам,
дзеля абароны гібнушчай нямецкай буржуазіі, карыстаючыся
самымі радыкальнымі лезунгамі і граючы на нацыянальным па-
чуцьці працоуных нямецкіх, выстаўляючых самне балючые пы-
таньні павароту Памора, каленіі, зьняцьця ваенных даўгоў і
адшкадаваньь. Гэтым Гітлер прыцягвае працоўных на свой бок,
якімі і запоуніу яго рады на 55% і выступаюць проці сваіх
братоу рэв. рабочых у абарону буржуазіі.

Аднак ня можна задавольніцца пазнаньнем толькі фашызму
чысьцейшай маркі калеру Мусалініяга, Пілсудскага, Гітлера,
Маслея, неабходна пазнаць і весьці барацьбу проці іншых
праяу фашызму схаванага пад маскай дэмократыі.

Неабходна усьведаміць сабе, што і іншые адцені буржуазнае
палітыкі ведзеные партыямі калеру ППС, Вызваленьня, Строн-
ніцтвам Хлопскім, Эндэцыі і Хадэцыі Польшчы, С.-д. партыі
эндэкау цэнтроуцаў і інш. Нямеччыны. Макдональдау, Гэндэр-
сонау і Бальдвінау - Англіі і інш. краеў зьяуляюцца тымі-ж
фашыстымі, як і Мусаліні, толькі будучы агентамі лоўячымі
працоўных у свой лагер, стараючыся абараніць і захаваць ула-
ду буржуазіі, мяняюць свае абліччы да таго, ці іншага асяр-
родку у якім працуюць. Пераходзячы да пытаньня нац. вызва-
ленчай барацьбы працоуных Зах.Бел. неабходна зазначыць аб
фашызме на грунце беларускім, фашызме чыстай маркі паноў
Луцкевіча, Астроускага і тэрорыста Акінчыца гэтых здрадні-
кау ідэі працоуных бел. Азэфау, маючых сваіх агентау на рож-
ных кутках ЗБ, дзеля лоукі працоуных.

Гэтые паны як на мовах, так і у сваей прэсе праяуляючы
радыкальную платформу, падшываючыся пад шыльд былое Грама-
ды, называючы сябе абаронцамі працоуных ЗБ за плячамі гэ-
тых працоўных вядуць перагаворы і атрымліваюць грошы ад ўра-
ду Пілсудскага і вядуць самае цеснае супрацоўніцтва з дэфэн-
зывай, памагаючы ей душыць самых сьведамых прадстаунікоу,
актыуных барацьбітоу за волю працоўных, садзячы іх у турму
пад каманду паноу Луцкевіча, Астроўскага і Акінчыца. Згуб-
ваючы сьведамые праявы працоўнага руху у суполцы з польскай
дэфэнзывай, стараючыся пацягнуць працоўных у свой лагер, ад-
цягнуць ад барацьбы з буржуазіяй, вядуць атаку на арганізац-
ыю працоуных Зах.Беларусі ТБШ, дзеля захвату у свае рукі і
зрабіць з яе вогнішча фашызацыі і паленізацыі. Другімі прад-
стаунікамі фашызму зьяуляюцца хадэкі і сельсаюз, які вы-
ступаюць замаскавана, быццам абаронцы беларускага народу ад
польскай акупацыі. У запраўднасьці жа зьяуляюцца паплечнікамі
Луцкевіча і Астроўскага. Працоўныя Зах.Бел. вядучы барацьбу
з акупацыяй польскага фашызму, з белым тэрорам не пабачыш

забываецца, што адначасна трэба весьці барацьбу і з фашызмам беларускім. Пасьпех гэтае барацьбы залежыць ад працоўных і загварантаваны будзе тады, калі усе працоўныя як адзін выступяць арганізованна пад чырвоным сьцягам не веручы ніякім партыям сац.-фашыстаў, як ППС, Строн. Хлоп. і Вызв., выкінуўшы Луцкевічаў, Астроўскіх, Акінчыцаў, Рагуляў, Станкевічаў і Ярэмічаў аб'явіўшы ім самую вострую барацьбу. Толькі моцнай арганізацыяй працоўных, толькі шляхам рэвалюцыі працоўные здолеюць перамагчы фашызм, скінуць адвечные ланцугі з рук і ног сваіх, захапіўшы уладу у свае рукі. Дык шчыльнымі радамі пад чырвонымі сьцягамі, пад кіраўніцтвам рэвалюцыйнага пралетарыяту да актыўнае барацьбы з фашызмам усіх масьцей за уладу працоўных.

А. Цьвік.

---

## У Д А Р О З Е.

... Кайданаў звон
Зрываўся з рук, як цяжкі стогн
І недзе гаснуў заміраў...
Адзін із вязьняў запяяў:
"Раз, паднялі трынаццаць гут,
Бунтарны сьцяг, магучы бунт!
І з кіркай, з молатам, пайшлі
Скідаць праклятцьце з плеч зямлі;
А на спатканьне ад усюль
Ім сыпанулі градам куль.
Мой бацька нес крывавы сьцяг,
Пау першы з куляй у грудзях,
Але другі работнік узяў
І з рук забітага штандар
Яшчэ вышэй яго падняў,
Падняў сьцяг грозны, як пажар.
Раз, паднялі, трынаццаць гут,
Бунтарны сьцяг, магучы бунт!
У той дзень напілася зямля
Крыві людзкой... І плакаў я
Над бацькам. Цяжка ен стагнаў
І перад сьмерцьцю мне казаў:
"Ідзі і стань у тых радах,
Дзе я стаяў і ВОЛІ сьцяг
Ня дай із рук тваіх узяць,
Ня дай у гразь яго утаптаць".
І я пайшоў, як ен казаў
Пайшоў у рады барацьбітоў
І, як усе, не адступаў
Ні крок назад ад куль, штыкоў.
Раз, паднялі, трынаццаць гут,
Бунтарны сьцяг, магучы бунт
І песьня сьціхла... Рукавом

Канвойны сьцер сьлязу з шчакі...
Ізноў стальны звон ланцугоў,
Горкі дарожны пыл, пяскі...
20/XI. А. Граніт.

# ГАРОТНІКІ ПРАЧНУЛІСЯ.

У той самы дзень, як арыштавалі Якуба, Сымон пайшоў у мястэчка, думаў, мо што даведаецца аб яго справе. Але пакуль прыйшоў, дык Якуба ужо у мястэчку не застаў, ужо яго вывязьлі на станцыю.

"Спазьніўся"- думау Сымон і направіўся гракай вуліцай на пошту. Падыходзючы да рынку спаткаў Андрэя, свайго таварыша, каторы служыу у мястэчку пры млыне. Сымон з ім прывітаўся.

"Ну, што, брат, мо ты што чуу пра Якуба?"

"Ды ва усім мястэчку гавораць аб яго арышце"- адказаў Андрэй "Шкада, брат! Кажуць што яго моцна білі, усе дапытваліся чаго прыехаў дамоў і што ен казаў у вас на сходзе... Шкада! Добры быў хлопец...Летась калі ён здаецца і адпачываў. То чытаць нас вуча, то сам чытае і разтлумачывае. Памятаем, як ен нам читау аб сацыялістычным будаўніцтве у СССР. Там аб калхозах і саўхозах.

Добра помніў і Сымон лекцыі Якуба, дык толькі нейкі жаль яго сьцісную за горла.

"Дык, кажаш яго білі?"- спытаў Сымон.

"Білі" сказаў Андрэй.

Сымон больш не абчым не пытаўся, працягнуў руку Андрэю і пайшоў на пошту. Каля яго пранеслося паліцэйскае аута з двума паліцыянтамі.

"Пэўне некага павязьлі?"- падумау Сымон і увайшоў у пошту. Высокі лысы кіраўнік пошты падаў Сымону руку і пачаў распытывацца як жывецца і што чуваць. Сымон нешта буркнуў яму у адказ і стау уважна пераглядаць паданыя яму, на імя Якуба газэты. Вось і ведамасьці з цэлага сьвету, хроніка, з японска-кітайскага фронту і т.д. і т.д.

"Можа прыехаў Якуб?"- спытаў усьміхаючыся кіраўнік пошты у Сымона. "Як-жа там у вашых гаротніках. Што чуваць?".

"Цяпер яшчэ нічога, хіба што посьля" адказаў Сымон. "Пачуеце, пэуна пачуеце"- падумау пра сябе і забраўшы газэты пайшоў дамоў.

Ужо вечарэла.

То там то сям на вуліцы Гаротнікау чарнелі кучкі людзей.

"А. Вось і Сымон вярнуўся"- гукнуу таўстым басам Марцін. "Ну, брат, пайдзем да Базылевых. Туды пайшлі амаль ня ўсе. Ну, а што чуваць?".

"Павязьлі. Ужо я Якуба не застау. Андрэй казау, што яго натта моцна білі"...

"Сволачы. Адплацім"- адказаў Марцін. Да іх прылучыўся Міхась-Канцэвы і Грышка і усе чацьвёра направіліся к хаце Базылевых.

"Пэўна Рыгор гэтак разкрычаўся"- сказаў Сымон і падыйшоўшы

яшчэ бліжэй можна было пачуць як Рыгор казау сваю прамову.
"Дакуль яшчэ нас будуць душыць падаткамі? Дакуль яшчэ нас будуць ганяць на шарваркі? Я, брат, чуу, ды і Якуб не раз казау што паны нас ганяюць рабіць дарогі, што гатуюцца зрабіць напад на Саветы. Вось што! Другі раз нам трэба будзе іх турнуць, каб яны забыліся і паказвацца у нашу веску!".
"Прэч іх з весак! Прэч.- пачуліся дзесяткі галасоу. Рыгор яшчэ больш набраушы у шырокія грудзі паветра, роу: "Прэч з крывапіуцамі!". Відаць сам разгарачыўся сваей прамовай бо сыпаў на лева і на права не разбіраючыся, што кажа, толькі-б секчы, граміць крывапіўцау.
"Што яны у нас хочаць, дзьве скуры зьдзерці? Пакажам мы ім! Сволачы!".
Сымон стаяў у дзьверох і слухаў. "Добра, хлопцы! Толькі не так горача!". Падышоў да Рыгора і палажыу на стол газэты.
"Сымон прыйшоў. Сымон!"- загаварылі у хаце. "Што, што чуваць?".
"Цішэй троху! Я якраз аб гэтым і хачу вам сказаць. Якуба вывезьлі".
"Вывязьлі? Пэуна спалохаліся!".
"Досыць, Рыгор, дай дакончыць".
"Сяньня вывезьлі- ізноу пачаў Сымон-, быу я на пошце. Прынес газэты. Вось глядзеце. Вайна японска-кітайская разгараецца. Амэрыка таксама коса глядзіць на Японію што тая забрала такія вялікія рынкі збыту. Тут відаць дауна-б схапіліся грызьціся Амэрыка з Японіяй, але ім дзічкай сядзіць у воку іх агульны вораг Саветы. Ну, але нашы вайска біруць!".
"Якія нашы. Саветы!".
"Ды не! Кітайскія бальшавікі. Кітайская чырвоная армія".
"А, добра!".
"Так іх сукіных дзяцей!".
"Ну, брат, троху цішэй, а то равеш як бык!"- устрымаў Сымон Рыгора.
"Вось я яшчэ прынес дзьве павесткі ад сэквэстратара"- сказаў Сымон.
"Каму павесткі!".
"Ды тут усіроуна ці табе, ці мне"- адазваўся Рыгор.
"Яшчэ як быў Якуб дык ен нам не раз казаў каб мы салідарна выступілі супроць падаткаў і мы, здаецца, учора гэта і зрабіць пастанавілі".
" І цыпер тое самое. Прэч з падаткамі! Прэч з сэквэстратарам"- адазвалася некулькі галасоў. Сымон разьдзер павесткі і кінуў на падлогу.
"Заутра прыедуць"- пачаў Сымон ізноу гаварыць. "Так а гадзіне 8-ай раніцай. Дык-жа разам хай Гаротнікі выступяць на вуліцу-супроць падаткаў! Супроць паліцыі і сэквэстратараў. Супроць белага тэрору!"
Далейшыя яго словы былі заглушаны дзесяткамі галасоу:

"На вуліцу Гаротнікі"!
"Супроць белага тэрору"!
"Прэч з падаткамі"!

Сымон разам з усімі вышаў з хаты Базылевых і пайшоў да сваей хаты.

Хоць ноч ужо даўна вісела над зямлей, але яшчэ доуга чууся лезунг, каторы будзіу Гаротнікі.

"Эх - думаў Сымон - гэтыя лезунгі кінуу паміж нас першы Якуб, а вось як яны растуць у сваей сіле"!

І прабудзіліся Гаротнікі. Прабудзіліся не дзеля таго каб ізноў заснуць, а каб скінуць з сваіх плеч ненавісны уціск, адплаціць за свае крыўды і запаліць новае сонца свабоды над гонямі Гаротнікаў.

## II.

Уставаў дзень шэры, сьцюдзены. Яшчэ было цемнавата, але на вуліцы Гаротнікаў поуна было людзей. Усе усталі. Нат і дзеці няцярпліва глядзелі праз маленькія вокны на вуліцу. Нечага чакалі.

"Што каб іх і у вёску ня ўпусьціць"- адазвауся Антон. "Хай едуць". "Праўду кажаш". "Як зачэпяцца тады мы іх і пугнем".

"А вун і Грышка ідзе! Ха-ха-ха - расьмеяўся Рыгор - ты, брат, ці ня у дзеда Анупрэя кій сьцібнуу". "Там убачым - адказаў Грышка - калісь і Анупрэй сотніка за падаткі благаславіу.

Пасярод вескі стаяу Сымон і каля яго хутка пачалі зьбірацца усе. Натоуп каля 300 чалавек прагавіта лавіў словы Сымона.

"Доўга спалі Гаротнікі! Цяпер яны прачнуліся! Надыйшоў той дзень калі Гаротнікі могуць адплаціць за свае крыуды, за свае раны і за раны нашага вучыцеля Якуба"...

"Якуба! Якуба!" - і імя Якуба пранеслося над галовамі тлуму.

"Дзень расплаты настаў!"- крычау Сымон. "Дык пакажам усім што трэба рабіць". "Мы, Гаротнікі, пакажам!".

"Пакажам! Пакажам"- загрэмела рэха трэхсот галасоў. Пасьля Сымона гаварыу Рыгор:

"Сёлета, як яны прыедуць дык мы ім адплацім і за леташнюю ліцытацыю. У мяне за пяць злотых летась зліцытавалі Гнядога"...

"І за Гнядога"- нехта крыкнуў з тлуму. Пачууся сьмех "Ну чорт гатоў быу і курэй зліцытаваных успомніць.

"Едуць! Едуць"- пачууся нейчы голас. Разваліушыся на сялянскіх карах ехалі два паліцыянты і сэквэстратар Харытон, былы царскі сотнік. Язэп, жыхар з недалекай вескі Слабады падганяу сваю храмую, худую кабылу, каторая ледзь, ледзь цягнула брухатых паноў. Пасярод вескі калесы заваліліся у рыцьвіну і кабыла ніяк не магла іх выцягнуць. Нічога не памагло што Язэп з заду іх упірау і сьцібау кабылу.

"Хай вылезуць! Не клапаціся, Язэп!"

"Пудоў пэуна трыццаць"- заувашыу нехта з тлуму. "Сядзяць як аб'еушыся і ня вылязуць". Пачууся сьмех.

Паны каб ня быць далей пасьмешышчам тлуму, мусілі вылязь-
ці і прайсьці у сваіх бліскучых ботах.
"Дзе саўтыс"- спытаўся Рыжы паліцыянт і пачау вылазіць
першы, за ім лез сэквэстратар Харытон а апошнім таусты Белы
паліцыянт.
"Трэба загадаць каб выбрукавалі"- буркнуу Рыжы да Белага.
"Чуеш салтыс!" На лета каб вы тут выбрукавалі, а то прата-
кол"- пагразіў Рыжы і пачаў страсаць з ботаў гразь.
Кабыла пачуўшы што зваліліся з яе плеч 8-мі пудовыя мяш-
кі сама выцягнула калесы.
"Ну, у каго на сяньняшні дзень павесткі"- спытаў сэквэс-
трарар і пачау капацца у сваіх паперах.
"К каму-ж тут першаму ісьці у госьці"- спытаў сэквэстра-
тар і хітра падмігнуу паліцыянтам. Рыжы захіхікаў.
"Антон Арцемаў"- чытаў сэквэстратар. "Дзе-ж гэты Антон
Арцемаў! Чаму ня плоціш падатак?"
"Я нічога ня дам"- пачууся цьверды голас Арцема і Антон
выступіу у перад.
"Кажаш нічога?".
"Нічога".
"Паглядзім"- і сэквэстратар мігнуўшы паліцы тонячка як
мыш захіхікаў.
"А вось другі Грышка Даніленак. І ты нічога недасі! А."
" Недам".
"Павесткі вы атрымалі?".
"Атрымалі і падзерлі!"
" Ну і што будзе з гэтымі збуямі"- зьвярнууся сэквэстра-
тар з запытаньнем да Рыжага.
"Арыштуем, а мо і так зобром"- адказалі разам Рыжы і Белы.
"Ну разысьціся"- і Белы зьняушы з плеч вінтоўку направіў-
ся к хаце Грышкі, а за ім пайшоў сэквэстратар Харытон з пар-
тфелем, а з заду Рыжы.
"Разысьціся. Разысьціся"- крычалі два паліцыянты, але ся-
ляне шчыльней і шчыльней загаражвалі вуліцу і перад самай
хатай Грышкі Даніленка паліцыя і сэквэстратар не маглі да-
лей пралезьці.
"Разысьціся! Што гэта такое! Бунт! Супроць улады! Прата-
кол! Хто зачыншчык"- і Рыжы выняўшы кавалак паперы пачаў пі-
саць: "Грышка Даніленак, Сы-н-мон, Сымон як тваё прозьвішча?"
"Рыжы"- адказаў Сымон. З тлуму пачуўся сьмех. "Можа вы
браты. Ха-ха-ха".
"Ціха псякрэў"- раунуў Рыжы выйшаўшы з цярпеньня і уда-
рыу прыкладам Міхася, што той найгорш сьмяяўся.
"Бі іх"- нехта крыкнуу з тлуму. Рыжы ня меў часу паставіць
вінтоўку як Грышкаў кій апусьціўся яму на галаву.
"Бунт! Бунт"- роў зьбялелы ад страху сэквэстратар Хары-
тон. Белы паліцыянт вынуу наган. Але ужо пранесся над трох
соцянай масай крык: " Бі іх" і камні, гразь усё паляцела
на галавы паліцы і сэквэстратара. "Прэч з крывапіўцамі".
Як маланкамі прарэзала тлум гэтымі славамі. Два паліцыянты
і сэквэстратар перлі самай сярэдзінай вуліцы пагубляушы

партфелі і вінтоукі. Сьледам іх гнауся узбураны тлум і плыва
у іх за шмат гадоу накіпеушым праклаяцьцем. "За веску толькі.
Далей ня трэба там. самі пойдуць. Ужо ня вернуцца"- крычау Сы
"Вось вам падаткі. Вось вам ліцытацыя. Гэй паны вярніце-
ся. Забылі падводу".

Доуга яшчэ сыпаліся праклаяцьця, доуга яшчэ ня мог супа-
кріцца разгарачаны тлум. Першы раз так бурлілі Гаротнікі у
сваім жыцьці, першы раз яны так злучыліся у адно, пачулі
сваю сілу і даведаліся што яны могуць зрабіць. Вечарам
прыйшлі весткі што і у Слабадзе, даведаушыся што зрабілі Га-
ротнікі выгналі сэквэстратара і паліцыю, і яшчэ прыйшлі та-
кія самыя весткі з другіх весак.

Вечарам пачалі сяляне зьбірацца як і заусёды у хаце Базы-
левых, прышлі сягоньня радзіцца каб як саарганізаваць камі-
тэт самаабароны для далейшае барацьбы. "Сэкрэтара перш выб-
раць. Сэкрэтара"- крычау Грышка. "Сымон сэкрэтаром. Сымон".
Сымон выйшау сярод хаты і пачау:

"Сяньняшні дзень нам паказау што мы можам зрабіць. Пака-
зау нашы сілы. Але гэта яшчэ ня усе. Гэта толькі пачатак на-
шае барацьбы. Каб давясьці да канца нашэ змаганьне, мы му-
сім вясьці гэту барацьбу, больш зьлітым, больш саарганіза-
ваным фронтам. Нас у перадзе чакае яшчэ не адзін напад са
стараны фашыстаускага ураду і каб даць належны адпор мы му-
сім саарганізавацца, стаць пад штандар дружын самаабароны".

"Хай жыве камітэт самаабароны. Хай жыве"- падхапілі дзе-
сяткі галасоу.

"Заданьнем камітэту будзе арганізаваць абарону супроць
нападау ураду Пільсудскага".

"Хай жыве камітэт".

У склад камітэту увайшлі апрача Сымона Грышка, Антон, Мі-
хась і Рыгор.

Сотні са дзьве сялян не магло зьмясьціцца у хаце і дзе-
ля гэтага Сымон выйшау на двор і стаушы на нейкай калодзе
паутарыу усім аб камітэце і аб тым што казау у хаце. І із-
ноу прарэзау начное паветра крык: "Хай жыве камітэт".

Пасьля Сымона на калоду узьлез Грышка. Яго не велічная
фігурка ледзь была відаць з калоды. І пачау перш ня сьме-
лым голасам, а пасьля мацнейшым, мацнейшым. Увесь ажну быц-
цам вырас перад вачыма тлуму. Гаварыу языком простым, кож-
ны яго разумеу.

"Усе наша. І зямля і фабрыкі, і вескі, і гарады. Мы за
усе заплацілі сваей кроую і потам, дык ніхто ня мае права
гэта у нас адабраць.

Хай высылаюць на нас паны карныя экспэдыцыі; мы сплаціу-
шыся пад штандар камітэту самаабароны дадзім належны адпор.
Сплаціушыся у адзіны фронт мы выпаунім заданьне, узложаннае
на нас.

Гаротнікі прачнуліся. Прачнуліся каб пастаяць грудзьмі за
усеагульную справу, каб скінуць ненавіснае панскае ярмо.
Гаротнікі прачнуліся і яны дадуць прыклад другім. Сыля-
не чуееце. Гаротнікі дадуць прыклад другім".

Тут у яго не хапіла слоў і Грышка закашляушыся злез с калоды.

"Гаротнікі прачнуліся! Прачнуліся!"- падхапіла некулькі сот галасоу і панясьлося рэха над хатамі, над гонямі Гаротнікау і над другімі вескамі. Панясьлося будзіць іх к новаму жніцьцю.

" Эх ня бача Якуб- думау Сымон- ня бача як узышлі яго зярняты і як Гаротнікі прачнуліся!".

А. Граніт.

--------

## ДЗЕ УЧОРА СТАЯУ БЕЗРАБОЧЫ.

Дзень гразкі, асеньні, сьцюдзены;
На вуліцах ~~хххх~~ вецяр гуляу;
Даждлівыя хмары шалёна
І з сьвістам, і з енкам, і з стогнам
І з пауночы з захаду гнау.
Памалу пусьцелі заулкі
І толькі часамі ліхтар,
На вуліцах места і вулках,
Дзе змоук яшчэ ня дауна шум гулкі,
Глядзіць безработнаму у твар.
Глядзеу-бы хацеу угадаць:
Аб чым гэта думае так безрабочы,у час ночы!
„Не разпаўзайцеся,
"Не разыходзьцеся пралетары весак і вуліц!
У ночку даждлівую,
У ночку сьцюдзенную ніхто нас не прытуліць!
Ляпей сплацімся
У кадры сталёвыя, братцы!
Мы сьвету апора,
Мы волаты сілы, волаты працы."
Нехта недзь песьню запеў,
~~ХХХХХХХХХХХХХ~~
Глуха зьвянеў яе сумны напеў,
А фанар глядзеў
Бы хацеў угадаць:
Аб чым гэта думае безрабочы
У час ночы!
„Прэч тые песьні
Што нам нядолю, гора кавалі!
Выкуем новые з граніту, жалеза,
Выкуем з сталі!
Паложым шыны,
Пусьцім машыны у працу, у рух.
Прэч з зямлі скібау,
З нашых сялібау цемры ланцуг!
Хопіць у нас гарту
Стоймаж на варце пралетары!
Стойма-ж на варце

Вёскі і места
Пад штандарам чырвоным.
Не разыходзьцеся,
Не распаўзайцеся пралетары.
У ночку даждлівую,
У ночку студзенную
Запалім пажары рэвалюцыі.
І сплацімся і пойдзем - стыхія;
Волаты сілы,
Волаты працы, - стальныя...
Ён думае так і здаецца яму
Што удуць ужо там,
Там шэрыя тлумы і бьецца
Чырвоны сьцяг; песьня плешча
На вуліцы тут, тут і там.
Прачнуліся места завулкі;
Пагас і ліхтар
Дзе учора стаялу безрабочы
Шуміць там -
Чырвоны штандар.

А. Граніт

-----------

## А Б ТЭРОРУ.

Белы тэрор, які панавау у Польшчы да маевага перавароту досьць даўся у знакі працоуным масам.

Кожны паасобны адміністратар, нават кожны паліцыянт рабіу "надужыцьця сваей улады" згодна са сваімі настроямі і поглядамі. На славах панавала аслауленая толеранцыя, а на дзеле гвалт, уціск, тэрор. Ганаровыя паны крычалі аб сваім хрысьціянскім ідэалізьме, а узапраудпасьці у лехах дэфэнзывы гуляў бізун па сьпінах сялян і работнікаў. Але з часу прыхода да улады фашыстоускага ураду пілсудчыкаў белы тэрор прыбірае іншыя тэмпы, іншы характар, аб якім на гэтым мейсцы мусім сказаць некалькі слоў.

Па першае, адкрыты, грубы, цынічны тэрор тварцамі маевага перавароту уведзены, як сыстэма урадаваньня. Гэтую сыстэму, гэты нязносна цяжкі дух фашыстоускіх банд асабліва балюча адчуваюць меншасьці на акраінах Польшчы.

Па другое, польскі імпэрыялізм на целе меншасьцяу гатовіць сабе базу для "экспансыі на усход", для зачэпнае вайны з Саветамі; вось чаму ен, гэты імпэрыялізм, прыдушыу сваею фэльдфэбэльскаю лапаю усякі вызваленчы рух меншасьцяу, зьнішчыу амаль да астатку усе масавыя арганізацыі. Ад так званага панскага "дэмократызму", ад іхняе асточарцелае "толеранцыі" дауно ужо не засталося і успаміну. Прыкладаў доуга шукаць ня прыдзецца.

Польска-беларускія масы ~~ххмммммхмммм~~ і арганізацыі

у першую чаргу адчулі на сабе новую панскую ласку. Разгромлена Сялянска-Работніцкая Грамада; разгромлены усе беларускія гімназіі; сялянскіх дзяцей пасадзілі за краты, зьдзекаваліся катавалі, вадзілі галодных на марозе этапамі ад аднэй дэфэнзывы да другой. Апошнім разгромлена Клецкая гімназія, дзе ня толькі дзяцей, а ужо і бацькоу разам кідалі у сабачыя скрынкі усялякіх арыштоу у Клецку і Нясьвіжу. У Вільні і Навагрудку існуюць беларускія гімназіі заражаныя гнілостным духам панскага фашызму і узгадоуваюць варожыя настроі да беларускіх сялян і работнікау. У гэтым самая шчырая і верная памочніца пільсудчыны - так званая, беларуская санацыя, якая разграміушы гімназіі дабівае сваімі даносамі ТБШ, зьліквідавала Дабрадзейнае Т-ва, а з Навуковага Т-ва зрабіла нават паслушную экспозытуру Віленскае Ваяводзкае дэфэнзывы. Такім чынам беларуская санацыя прыбірае на сябе ролю вучыцялёу польскага фашызму па ліквідацыі усялякае працы, якая усьведамляе і гуртуе беларускія масы.

Правакацыя- улюблены мэтад урадаваньня зьмілітарызаванае польскае адміністрацыі, якая выдае ад імя нялюбых ей беларускіх арганізацыяу нелегальныя адозвы, купляе прадажнікау, якія падкідаюць нелегальную літэратуру, каб спадручней было ліквідаваць гэтыя арганізацыі. Забароны ладзіць спэктаклі, рабіць сходы, ліквідаваньне бібліятэк-чытальняу і народных дамоу - вось дабрадзействы, якія шчэдрай рукой сыпе беларускім масам польскі ашалелы фашызм.

Не пакідаюць паны без увагі і іншых нацыянальнасьцяу. Ліцьвінам [illegible] выдуць [illegible] вучняу сярэдніх [illegible] і буржуазіі. Паграджаюць [illegible] школ садзяць за краты нібы за "[illegible]" [illegible] зусім так, як рабілі з беларускімі дзяцьмі. На днях зьліквідавана 10 пачатковых літоускіх школ за падручнікі польскага паходжаньня, якія ужываліся у гэтых школах.

Жыдоуская вучыцельская сэмінарыя таксама зачынена за "камуністычныя настроі". А падзеі на вуліцах Вільні у лістападзе найлепей характэрызуюць "рыцэрске жонды панув пулковнікув". Зьдзічэлая эндэцка-фашыстоуская моладзь распачала на вуліцах жыдоускія пагромы. Армія паліцыі і шпікоу, якіх трымаюць для катаваньня палітычных, ня вышла на вуліцу і ня спыніла хуліганскага разбою пакуль усе вітрыны у жыдоускіх склепах ня былі разьбіты і разраблены. На людпісарскай вуліцы дзікі натоуп польскіх "акадэмікув" качау на руках паліцыянта з гіканьнем і крыкам "нех жые паліцыя". І гэта за тое, што паліцыя не перашкодзіла ім разграміць жыдоускі студэнскі саюз. Тады толькі адміністрацыя энэргічна выступіла, калі пачалі арганізоувацца міжнародавасьцевыя дружыны самаабароны і што пачынаецца нешта падобнае да хатняе вайны. Прауда, для добрага вока лару адміністратарау перасунулі на іншыя пасады, бо ужо вельмі выразна выявілась пагромная варварская праца самой адміністрацыі.

Адносна да палітычных вязьняу паводле новага турэмнага

рэгуляміну разьлічана на тое, каб і духова і фізычна зьнішчыць, скалечыць чалавека. Адным словам, гэтая устава - ж сьмерць на кароткія раты для усіх удзельнікау вызваленчага руху.

Царскі кадэкс карны, які Польшча дастала сабе у спадчыну мяняецца у горшым больш вострым напрамку, зразумела у адносінах да працоуных, якія найбольш гніюць у панскіх вастрогах. Войсковая дысцыпліна завастраецца, за дробныя правіннасьці аддаюць пад суд вайсковы, вызначаюць суровыя кары, як гэта робіцца у часе вайны.

Але вяршыняй пірамідзы белага тэрору, якую збудавала пілсудчына, бязумоўна зьяуляюцца даразныя суды. Сталыпінскі гальштук- пятля шыбеніцы гуляе на крэсах і амаль кожны дзень душыць беларускіх і украінскіх сялян. Лепшага спадзявацца ня прыходзіцца ад саюзу палкоунікау з Радзівіламі, Мацкевічамі, Мэйштовічамі і Пімонавымі.

Але гэты саюз капіталу з ваеншчынай, якія выразна рыхтуюцца да нападу на адзіную пралетарскую дзяржаву СССР, і у чым зацікаулены увесь капіталістычны мір, сялянін і работнік павінен адказаць моцным саюзам працы.

На кожны поклік "будзь гатоу" павінен быць цьверды адказ "заусёды гатоу".

Усе працоуныя плячо у плячо, рука у руку трымайцесь моцна; недалёка час адкрытае схваткі працы з капіталам.

Асабліва працоуныя Зах. Беларусі рыхтуюць для расправы з сваім адвечным ворагам капіталам, бо на нашых земельках разнясецца эха першае гарматы скіраванай на дзяржаву працоуных СССР, а у першую чаргу БССР.

Донька.

## МАНДЖУРСКІЯ ПАДЗЕІ.

Крызыс капіталістычнага міра прыняушы вельмі вострые формы, зьяуляецца крызысам хранічным і залагаджэньне яго немагчыма без здабыцьця новых рынкау збыту. Вольных-жа земель дзеля гэтае мэты няма, а таму неабходна перадзел міра, а то спосабам аружна-вайной.

Рауналегла з паглыбленьнем крызысу расьце масавы рух рэвалюцыйны шырокіх мас пралетарыяту, сялянства, народау падбітых у калёніях і поукалёніях, дзе пануе нялюдзкая эксплоатацыя. Росту масавага рэвалюцыйнага руху спрыяе у вялікай меры існаваньне СССР; яго дынамічны узьдым, уплыу палітычны на працоуные масы капіталістычнага міра, якія з кожным днём пераконваюцца, што адзіным дзяржауным ладам ёсьць лад СССР, а у самой дзяржаве бачаць сваю бацькаушчыну, у выніку чаго масы паустаюць да масавае барацьбы і пагражаюць існаваньню буржуазіі яе уладзе, змагаюцца за сацыяльна-нацыянальнае вызваленьне у сваіх краінах, калёніях і поукалёніях, чаго яскравым прыкладам можа быць Кітай.

Кітайскі працоуны люд абудзіуся з адвечнага сну у

1904 годзе вядзе зацятую барацьбу з міжнародным імпэрыялізмам, гаспадараваушым у Кітаі, як у сябе дома. Асабліва гэтая барацьба завастраецца у 1925-26 годзе, калі Кітайскі народ узняуся з аружжам у руках змагацца за свае вызваленьне пад сьцягам Коміндану і пайшоу у барацьбе шмат далей чым кіраунікі Коміндану, пагражаючы сусьветнаму імпэрыялізму і сваім эксплеататарам нацыянальнай буржуазіі. Бачучы гэта кітайская буржуазія робіць круты паварот, запрадае свае нацыянальныя інтарэсы і інтарэсы працоуных імпэрыялістычным хішчнікам; цэнтральная асоба Коміндану і генералісімус кітайскіх нац. вызваленчых войск Чан-Кай-Шэк пры дапамозе міжнароднай буржуазіі самым дзікім азіяцкім спосабам душыць рух сьвядомых работнікау і сялян, громючы іх арганізацыі і тысячы актыуных барацьбітоу растрэльваючы і адсякаючы головы на вуліцах Шанхаю, Кантону і др./у Шанхаі за тры дні пагібло 5000 асоб/.

Аднак не гледзючы на здраду свае буржуазіі, на масова дзікіе расправы з працоунымі нац.вызваленчага руху, апошні і клясавая барацьба супроць буржуазіі расла і узмацнялася пад кірауніцтвам Камуністычнае Партыі Кітаю /КПК/. Партызанскія атрады ператварыліся у чырвоную армію. Апошняя здабывая пазыцыю за пазыцыяй, ахопліваючы тэрэны з 80 мілёнамі жыхароу, дзе агалошана Кітайская Савецкая Рэспубліка з уладаю сялян і работнікау.

Кітайскіе Саветы вядуць актыуную барацьбу супроць імпэрыялістычным драпежнікам і буржуазіі, пагражаюць панаваньню буржуазіі над кітайскімі працоунымі масамі, пагражаюць зрэвалюцыйнізаваньню і вызваленьню Карэі з пад імпэрыялізма японскага, пагражаюць панаваньню міжнароднага капіталу.

Факт існаваньня СССР і Кітайскіх Саветау, як вогнішча рэвалюцыі і сусьветнага вызваленьня працоуных мас з аднага боку, цяжкае становішча капіталістычных краін і супярэчнасьці паміж імі з другога спрыялі таму, што японскі імпэрыялізм збройным нападам займая Манджурыю, вядзе вайну у Шанхаі і Нанкіне, ажыцьцяуляючы свае імпэрыялістычные пляны, стараючысь скіраваць увагу мас японскіх на шлях прыгнечаньня і эксплеатацыі Кітаю, каб тым самым запабегчы рэвалюцыйнаму руху і рэвалюцыі у сябе дома. Японскі імпэрыялізм імкнецца здушыць Кітайскіе Саветы і напасьці на СССР учым зацікауляны усе капіталістычные краіны. Разрахоуваючы на усе гэтые бакі і слабасьць Кітаю, японская буржуазія кінулась грабіць пад свае панаваньне Манджурыю, як краіну вугольля, жалеза, сырья, рынку збыту і стратэгічны пункт для нападу на СССР.

Кітайская буржуазія на чале з Комінданам не магла і не хацела супроцьставіцца японскай экспанзіі, ведаючы добра, што усе гэта скіравана супроць рэвалюцыйнаму руху, Кітайскім Саветам і СССР. Аднак на наезд японскага імпэрыялізму, актыуна выступілі кітайскіе працоуные масы у постаці партызанскіх атрадау і не гледзючы на ахвяры з свайго боку,

трактацыю іх японскімі імпэрыялістамі "бандытамі" вядуць заў-
зятую барацьбу за сваё вызваленьне з путаў кітайскай і між-
народнай буржуазіі.

Захапіўшы Манджурыю, японскія імпэрыялісты павялі атаку на
Шанхай, Пекін, тысячамі забіваючы работнікаў Кітаю і папярадж
жаючы гэтым самым кітайскую чырвоную армію, якая такосама зна-
ходзіцца у 20 мілях ад Шанхаю і наступае на яго. Аднаразова
пагражаюць захватам савецкай усходня-кітайскай чыгункі, адкуль
маюць замяр павесьці ваенную апэрацыю на Народную Мангольс-
кую Рэспубліку і Сібір, справакаваўшы гэтым самым Савецкі
Саюз...

У гэй час, як ракою льецца кроў на Усходзе, Ліга Народаў
раджуючысь на розных тайных і яўных канфэрэнцыях у соты раз
даказвал сваё безсільле, не могучы пагадзіць Японію і Кітай,
якіе абое падпісалі пакт Келлога і аднаразова зьяўляюцца
членамі Лігі Народаў. Пацыфістычная фразеалёгія буржуазіі
на чале з Брыянам, фактычнага кіраўніка Лігі, гэтага буль-
дога на ланцугу міжнароднай буржуазіі і вера у будучыну веч-
нага міру і мірную палітыку Лігі лопнулі як мыльны пузыр.
Сама буржуазія, каб замаскаваць безраднасьць Лігі, кажа праз
свaіх палітыкаў, што яна не у сілах запабегчы і застанавіць
збройны паход без добрай волі усіх народаў, а асабліва ста-
рон уцягнутых у канфлікт /вайну/ , у той час як II інтэрна-
цыянал пяе гімны Лізе Народаў - як праўдзіваму старажу пакою.
Ліга Народаў была і есьць арганізацыяй міжнароднай буржуазіі,
падгатаўляючай збройны паход на Савецкі Саюз і ле-справаў
есьць цяперашніе падзеі на усходзе. Аднак маючы адну і тую-
-жа мэту - разьбіць Савецкі Саюз, як асяродак рэвалюцыйна-
га руху, паміж буржуазіяй паасобных дзяржаў паўстаюць супя-
рэчнасьці, а то за перадзел зямель і кіраўніцтва збройным
паходам, што выявілось пры бомбардаваньню праз Японію Шан-
хаю.

Канцэнтрацыя збройных сіл Францыі у Індокітаі на граніцы
Савецкага Кітаю, канцэнтрацыя сіл дзяржаў капіталістычных у
Шанхаі сьведчыць аб помачы міжнароднага імпэрыялізму кітайс-
кай буржуазіі у душэньню руху працоўных. Асабліва важным мо-
мантам зьяўляецца правакацыя праз Японію Савецкага Саюзу,
якая на славах і у свaіх нотах кажа і піша аб не нарушэньні
інтарэсаў Савецкіх у Кітаю і у міралюбных да Саветаў адносі-
нах, а у практыцы падтрымлівае белых контр-рэвалюцыйных ра-
сейскіх банд атамана Семёнова фінансава і супрацоўніцтвам,
улаштоваўшы у Манджурыі дэпартамэнт расейскіх эмігрантаў пры
міністэрстве замежных спраў.

Вядзе прэсавую атаку супроць СССР, займае на усходня-кі-
тайскай чыгунцы Цыцыкар, што ідзе у супярэчнасьці інтарэсам
Савецкага Саюзу. У ва усім гэтым японскім імпэрыялістам па-
магая буржуазія іншых краін; разам чагоб была падгатоўка
атэнтату на японскае прадстаўніцтва у Маскве, праз Чэскае
Консульства, бÿўшым легіяністам і саратнікам Калчака у Сібі-
ры, чэскіх легіёнаў Гайды, каб стварыць повад да вайны Япо-
ніі з Саветамі і міжнароднай інтэрвенцыі. Паход такі не

удауся, бну раскрыты, але гэта не значыць што міжнародная буржуазія і на далей не будзе шукаць прычыну для інтэрвенцыі.

Савецкі урад, будучы урадам працоуных, стоячы на грунце самаазначэньня народау, процізахватніцкай палітыкі імпэрыялістау, стоячы на старожы міра і вядучы мірную палітыку, аб якой працоуным добра ведама з канфэрэнцыі па разбраеньню, гаспадарчай канфэрэнцыі, пакты аб палітычнай і эканамічнай неагрэсіі ня хоча мяшацца у Манджурскія падзеі, заняушы нейтральнае палажэньне востра сачыць за гэтымі падзеямі і у выпадку паходу проці Савецкаму Саюзу, дасьць належны адпор імпэрыялістычным бандам.

Працоуныя СССР востра сачаць за рухам гэтых банд, а на мітынгах па усім СССР выносяць вострые пратэсты і гатуюцца каждую мінуту з аружжам у руках выступіць у абарону сваіх граніц, правоу і даць належны адпор, так як паказалі ж сваю сілу і гатоунасьць да барацьбы пры захопе усходня-кітайскай чыгункі праз банды Чан-Кай-Шэка. Працоуныя усіх краін, а працоуныя З.Б. і Польшчы асабліва павінны, так як працоуныя Саюзу сачыць за Манджурскімі і Шанхайскімі падзеямі, пратэставаць проці паняволеньня кітайскага працоунага народу і стаць у абарону Кітайскіх Саветау, пратэставаць проці правакацыі і падгатоукі інтэрвенцыі супроць Сав.Саюзу. А на выпадак збройнага паходу проці дзяржавы працоуных СССР, зьвярнуць аружжа, якое дасьць буржуазія дзеля барацьбы са сваімі братамі, вольнымі працоунымі СССР - проці самае буржуазіі, перетварыць вайну імперыялістычную у вайну хатняю, за вызваленьне працоуных, за рабоча-сялянскі урад.

---

Працоуныя масы усей Польшчы, Украіны і Беларусі Зах. [typed-over x's]
памятайце, што барацьба Кітайскіх Саветау і барацьба чырвонае арміі з імпэрыялістамі гэта - ВАША БАРАЦЬБА, існаваньне СССР - ВАШАЕ ІСНАВАНЬНЕ. Так як адзін усе да актыуна-масовых выступленьняу у абарону Кітайскіх Саветау і СССР.

Фашыстоускі урад рыхтуецца к хуткаму збройнаму нападу на СССР, чаму сьведчаць факты тайных перагаворау, паездка ката Пільсудскага у Вільню, канфэрэнцыі і гутаркі з вайсковымі і бнушымі дабравольцамі легіонау, якім запэунілу даць да чэрвеня працу, як старым, так малым. Памятайце, што кат працоуных дасьць ВАМ аружжа, якое вы павінны павярнуць на вашых гнэнбіцяляу усіх нацыяу фашыстау, сац. і нац. фашыстау.

Змагар.

---

## ПАСЛУГІ І ПЛАЧ БЕЛАРУСКАЙ СКАНЦЫ.

Фашыстоускі урад Пілсудскага рыхтуецца да вайны супроць СССР. Што гэта падрыхтоука блізка да канца становіцца відавочным - паміж іншым - з тэй дэмагогіі і новых манэурау, якімі урад хоча "супакоіць" прыгнечаных Зах.Укр. і Зах.Бел.

змагаючыхся за свае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Праявай гэтай урадавай палітыкі зьяуляецца апошняя прамова міністра Перацкага у Сойме, у якой ён сьцвярдзіу што пацыфікацыя Зах. Украіны была патрэбнай, будзе і у будучыні тасавацца да "бандытау" / г. зн. сялян і работнікау змагаючыхся супроць акупацыйнай улады / дзе абяцанкі здавальненьня культурных патрэбау украінскага грамадзянства. Адначасна львоускі ваявода дае яшчэ больш шырокія абяцанкі прадстаунікам розных украінскіх устаноу.

Гэтакім чынам урад хоча перакупіць / хаця-ж толькі абяцанкамі / украінскіх нац. фашыстоускіх " дзенчау" і іх арганізацыі, каб яны павялі украінскіх сялян і работнікау на вайну супроць СССР. Для рэшты-ж працуючых, як для "бандытау"/словы Перацкага/ даразные суды і крывавая пацыфікацыя /сяляне Берасьцейшчыны і Навагрудчыны ужо сяньня адчуваюць гэтую пацыфікацыю/.

"Нашая" беларуская санацыя з Астроускім і Луцкевічам на чале, чуецца пакрыуджанай што "паважаные колы" на іх у апошнім часе вельмі мала зварачваюць увагі і у "Беларускім звоне" № 3 у артыкуле "Урад і меншасьці" - піша:

...."можам толькі пажадаць большай шчырасьці ды станоучасьці / падкрэсьльваньне мае - Я / у рэалізаваньні добрых намерау новага міністра, ды ня толькі адносна да украінцау, але і да беларускага народу".

.... З асаблівым прызнаньнем з боку апазыцыі выслухана была заява мін. Перацкага аб тым што - "у дзяржаве дэмократычнай можна кожнаму грамадзяніну свабодна мусьліць, выражаць свой суд і дзеяць - пад варункам, што будзя выкладаць ды бараніць свае погляды разумам, не тасуючы гвалту сілы і падступу".

Гэта ужо не аблуда, а адкрытая правакацыя беларускіх працоуных масау, кроу каторых штодзень па шточасна праліваецца у фашыстоускіх вастрогах, па весках беларускіх, пад дзікім тэрорам паліцыі. "Бел. Звон" хоча "большай шчырасьці" / у фашыстоускага міністра/ "ды станоучасьці" / відаць мала яшчэ для рэд. Бел. Звону 44 павешаных па прыгаварам даразных судоу на Заходняй Беларусі/.

Не, паны Астроускія і Луцкевічы. Беларускія сяляне і работнікі ня вераць у шчырасьць фашыстоускага ураду. "Добрыя намеры"... аб такіх, якія маюць такія добрыя намеры беларуская гутарка гаворыць: "ён добры, калі сьпіць"...

Беларускія сяляне і работнікі, беларуская моладзь не маюць ніякай надзеі больш вольнага жыцьця у абшарніцка-капіталістычнай Польшчы. Беларускія сяляне і работнікі змагаюцца за свае нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне у цесным саюзе з працоунымі, літоускімі, жыдоускімі, украінскімі і польскімі. Гэта есьць барацьба супроць фашыстоускай акупацыі і усіх яе прыслужнікау беларускай санацыей. Гэта есьць барацьба в абароне СССР і БССР, дзе шырока будуецца беларуская культура. Гэта есьць барацьба за работніцка-сялянскі урад, за зямлю бяз выкупу, за права самаазначэньня аж да аддзяленьня ад фашыстоускай Польшчы.

У "Беларускам Звоне" № 23 / 30 лістапада 1931 г./ беларуская санацыя блядуе аб тым, што "у беларускіх прасьветных, навуковых ці іншых установах стаяць на чале усьлеж тыя самыя людзі, а моладзь не відаць, німа зьмены дзеячоў. Адкуль гэткія сумныя настроі?

Беларуская санацыя ўсе болей адчувая сваю ізаляцыю ад беларускіх працоўных, паны Астроўскіе, Ярэмічы, Луцкевічы і іншые бачуць, што ніхто да іх не ідзе і гэта тлумачаць іх шчыры плач: яны ужо старые, вельмі скампраметаванне, а новых сіл якія памаглі-б далей ашуківаць масы, - не відаць.

На шчасьце сапраўднасьць зусім не так выглядая, як гэта молюць санатары - здраднікі, ад каторых усе адвярнуліся ёсьць і ідзе усьцяж наперад новая зьмена барацьбітоў работніцка сялянскай ды інтэлігэнскай моладзі, але ідзе не туды дзе сьмярдзяць за дэфэнзыўныя грошы старыя здраднікі, але да тых якія вядуць шчыра змаганьне з крывавым ворагам польскай фашыстоўскай акупацыі.

- Я -

-------

## АБ ПАЛАЖЭНЬНІ ПАЛІТЫЧН. ВЯЗЬНЯЎ.

Фашызм душучыся у прадсьмертных курчох сударгаў крызысу прамыслова-аграрнага, бачучы сваю нямінуючую сьмерць, аднак баючыся не, стараецца адцягнуць свае існаваньне.

З гэтай мэтай у апошні час, фашызм правёў цэлы рад новых падаткаў, усім цяжарам сваім падаючым на плечы працоўным, узмацніўся тэрор па адносіньню да сялян і работнікаў, пратаколы, штрафы - штодзеннае зьявішча, завастрыліся законы, уведзяны даразные суды, мілітарызацыя калеі іх і інш. Усё гэта працоўныя бачуць і адчуваюць на сваіх сьпінах. Але не усё можна усім бачыць, не усё можна адчуць. Аднэй з такіх рэчаў, якой не усе могуць бачыць і адчуваць зьяўляецца турма, за тоўстымі мурамі якре, у чатырох мокрых, халодных сьценах, пераживаючы голад, холад, маральны і фізычны зьдзек, знаходзіцца найбольш актыўны, найбольш сьведамы авангард працоўных, браты, сестры, бацькі працоўных сялян і работнікаў, якія глядзяць праз краты турмы на волю і чакаюць момэнту, калі працоўныя іх звольняць.

Амаль няма на Зах.Бел. ні воднага места, вескі з якой-бы не сядзеў ніхто у турме. Тысячы работнікаў і сялян у гэных фашыстоўскіх казэматах трацючы сілы і здароўе, дастаючы розные хваробы, як сухоты і інш., або уміраючы у гэных сьцянах, ці вярней магілах жывых.

Дзеля лепшага зразуменьня палажэньня палітычных вязьняў у турмах польскага акупацыйнага фашызму даволі коратка адзеліць тыя галоўныя момэнты з жыцьця палітычных вязьняў, якія найбольш характэрны і зразумелыя для самых працоўных. Усім добра ведама якім гвалтам, мукам, зьдзекам падлягае арыштаваны знаходзячыся на "баданьні" у дыфэнзыве, такім-жа мукам і фізычнаму зьдзеку падлягая кожны апынуўшыся між

чатырох сьцен турмы. Праўда мэтад гэтага зьдзеку разьлічаны
на доўгі час, а таму і мае некальki адменную форму.
Перадусім, могучы задушиць палітычнага вязьня, фашизм сы-
стэматычна заставуляе яго жыць поўголадам. Турэмная ежа пазь-
баўлена амаль зусім жыроў. Гнілыя крупы, капуста, буракі, ся-
ляцы, гарох, якімі гаспадар ня корміць нават сьвіней - што-
дзенная страва палітычнага вязьня. Мяса ніколі няма, а за-
места яго у місцы заўседы плаваюць чэрві. Калі раней мож-
на было атрымоўваць з волі ад сваіх крэўных, ці знаё-
мых ежу два разы ў тыдзень, то цяпер па заведзеньню новага
турэмнага рэгуляміну, які пазбаўляе паліт. вязьня людзкіх
правоў і зраўняў яго з зладзеямі, забойцамі. Ежу з волі мож-
на даставаць толькі адзін раз у два тыдні, так што калі ра-
ней паліт. вязьні жылі поўголадам, то цяпер фармальна галада-
даюць.
Турэмная крамка, якая раней была кожны тыдзень і можна
было купіць што хочаш і колькі хочаш, то цяпер раз у два
тыдні і купляць можна толькі у абмежаваным ліку і то ня ўвё,
хаця цэны многа вышэйшыя чым на волі.
Трымаючы у сырых сьпёртых камэрах адзіночных па двух,
то і трох, палітычн. вязьні пазбаўлены паветра, гэтай асноў-
ной пажывы чалавека. На прагулку пускаюць замест раней
двух гадзін у дзень, толькі на паўгадзіны. За маленькі які-
небудзь "праступак" садзяць або у карцар, або у ізаляцыю на
цэлы месяц на хлеб і ваду два разы на дзень без пасьцілкі,
на падлозе стаіць вада як у возеры. Апрача гэтага турэмныя
старажы зьдзекуюцца над імі, бьючы або лаючы як якіх бан-
дытаў. Побач з зьдзекам фізычным пануе зьдзек маральны. Фа-
шызм ведаючы што адзіная пажыва і задаваленьне палітычных
вязьняў - гэта кніга, адабраў ім бібліатэку і не пушчае ў
турмы ніякае кнігі, стараючыся зрабіць з палітычных вязьняў
ідыётаў. Алуўкі /цетрадзі/ сшыткі таксама адабраны, каб
ня можна было запісаць нат свае турэмныя ўражэньні. Лістоў
пісаць ня можна, можна толькі пачтоўкі па польску або па-
расейску, але не па беларуску і то адзін раз у тыдзень. Наба-
чаньне у турме са сваім бацькам, або братам таксама немаг-
чыма, так што бывае, што браты сядзяць у аднэй турме некуль-
кі гадоў не бачачы адзін другога. З волею пабачаньне даюць
раз у два тыдні і то праз краты. На стацары няможна ня толь-
кі працаваць культурна, але забараняецца гутарыць з наступ-
ною параю, а калі загутараць, то гоняць у камары, пазбаўляю-
чы і тое паўгадзіннае прагулкі, а гэтым самым і абсалютна
ужытка сьвежага паветра.
Апісаць усяго таго фізычнага і маральнага гнёту у якім
знаходзяцца палітычные вязьні тут немагчыма, на гэта трэба
-б было напісаць цэлую кнігу. Даволі сказаць, што ўсе тыя
людзкіе правы, якія палітычныя вязьні здабылі у барацьбе
шляхам цэлага шэрагу галадовак за старых часоў, вынікам
чаго многа пралілі крыві і трупаў самых паліт. вязьняў. Аднак
ня гледзячы на гэтыя цяжкія заваевы фашызм адным росчаркам
пяра адабраў ім гэта, зрабіўшы іх роўнымі бандытам, забойцам.

Нідзе ні у адной дзяржаве няма такога дзікага зьдзеку, тэ-
рору, які пануе у Польшчи. Па параўнаньню [illegible] тэрору [illegible]
тэрорам дэмократичнай Польшчи апошні у тысячу [illegible]
ши ад першага. Знаходзячися у такіх варунках палітичние
вязьні вядуць барацьбу за свае правы. Галадоўкі, якія імі
праводзяцца [illegible], што фашисти не
рахуюцца [illegible], і не адзін стараецца давя-
сьці да гэтих ахвяр. Прикладам гэтага можа служиць апошняя
галадоўка у Вільні на Лукішках, дзе палітичних вязьняў на
семы дзень галадоўкі, [illegible] восьмы дзень без вади, немо-
гучих перастуліць з ногі на ногу, турэмние стражи, пад ка-
мандай ката-начальніка зьбілі да непритомнасьці і бачучи,
што гэта не памагло пайшлі на самы подлы спосаб змаганьня
з галадоўкамі - абман. Паабяцоўши на дзесяти дзень випаўні-
ць ўсе жаданьні. У рэшце на галадоўцы яни не толькі не споў-
нілі сваіх абяцаньняў, але адабралі усё што да таго яшчэ
мелі. З гэтага кароткага агляду працоўним ясна, які цяжкі
стан жицьця іх перадавих барацьбітоў за волю працоўних. Яс-
на таксама, што без помачи працоўних з волі здабицьця людз-
кіх правоў для палітичних вязьняў - няма чаго спадзявацца.
Дзеля гэтага трэба каб сяляне і работнікі масова пратэста-
валі на сходах-дэманстрациях супроць дзікага тэрору, суп-
роць зьдзеку над палітичнимі вязьнямі, за людзкіе правы іх,
виносячи вострие рэзалюцыі. Там дзе есьць турми трэба ра-
біць перад імі масовие дэманстрацыі- пратэсти, дамагаючися
звальненьня палітичних вязьняў і весьці атаку на турми, сі-
лаю випускаць сваіх абаронцаў на волю. Дзеля гэтага неаб-
ходна салідарнасьць і лучнасьць сталая паміж рабочимі і ся-
лянамі, каб можна било разам і аднačасова виступаць на ба-
рацьбу з фашизмам і яго белим тэрорам.

Змагар.

---

## - Н О В Ы  Г О Д -

Ноч. Ціха,
Толькі вецер ускруціўши ліха
Вые.
Сьпяць вуліци, ім ня живия.
Толькі мільёни агней тут і там
Глядзяць за крати.
Пад акном чуецца:
"Бом!..бом!..бом"...
Крок роўни салдата,.
Крок цьверди, сталёви
І, за жалезния крати,
Ціха паўзе
Год Нови.
Вось дванаццаць прабіла;
Сарваўся з сну вязень,
Глядзіць ў вакно:

І здаецца яму:
Дзесь праз сьнежистие хмарн,
Іграюць агні і пажарн,
Чуюцца молатоў ударн,
Бачнць нейкія тварн,
Як марн...
Чуецца шэпт іх панурн:
Гіблі мн з голаду, з бурн,
Нас грнзлі астрожння мурн,
Над намі спраўлялі хаўтурн
Віхурн...
І праз сьнежныя аледзянелия
Цені іх шэрня, цені іх белня
Ходзяць па вуліцах, бн анямелыя,
Ходзяць іх сотні, тысячн цэлия...
Вось іх кастлівня ногі
На тратуарах, дарогах
Грукаюць: "раз ... два"
З лева, з права.
„Таварнш, таварнш!
Прачніся!
Глянь, як на вуліцн, вунь
Панясьліся"...
„Дзе? Хто?"
„Брат!
„Нашн таварншн з барнкад...
З лева, з права
З усіх старон.
Ці чуеш, там іх ног звон?"
„Не, брат, гэта не янн.
Гэта ветру напеў
Празвенеў.
Дн прайшоў фараон."
„А... можа і ён"...
Чуецца пад вакном
Крок роўнн, сталёвн.
Што-ж прнесе ім за кратн
Год Новн?

А. Граніт.

---------

# ПАСПЕХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ У СССР.

Савецкая улада, якая надзеліла абшарнічай зямлей беззямельных і батракоу з першых дзен свайго існаваньня адразу прыступіць да праведзеньня у жыцьцё калектывізацыі немагла так як гэта вымагая будауніцтва сацыялізму. Прычыны гэтаму, папершаму занапад легкае і цяжкае прамысловасьці і руіна сельскай гаспадаркі падчас імпэрыялістычнае і грамадзянскае вайны, па другому псыхалогія прыватнае уласнасьці, убітая у галавы сялян з пакон веку была адной з найгалаунейшых прычын будовы сельскай гаспадаркі індывідуальным прынцыпам. Прыймаючы гэта пад увагу Савецкая улада на пазасталых землях побач з вёскамі тварыла гаспадарства калектыуные на землях былых памешчыкау, т.зв. "Саухозы і Камуны". Мэтай Саухозау і Камун была плянова́й дружнай працай, пры карыстаньні машын і штучнага гнаеньня, павысьці гаспадарку так, каб яна служыла прыкладам для сялян уласьнікау і вырабляла даверрэ да гаспадарак калектыуных, заглушваючы пачуцьце прыватнай уласнасьці, псыхалегію выработаную на гэтым грунце. Гэтую мэту Саухозы і Камуны выканалі. Сяляне бачучы росквіт Саухозау і Камун пераходзілі да калектыунай гаспадаркі арганізоуваючыся у Калхозы, пашыраючы такім чынам сэктор. Індывідуальные гаспадарства па параунаньню з гаспадарствамі калектыунымі адбудоуваліся слаба. Палітыка Прышчэпава, які прыняу наследства ад Сталыпіна была скіравана у кірунку стваральня буйных гаспадарств кулака у той час як беднае сялянства было занедбавана. Аднак адбудова сацыялістычнага будауніцтва на грунце цяжкай і легкай індустрыі, а таксама у аграрным пытаньні спрыяло папулярызацыі Калхозау і масавому у іх уступу. Асабліва вясковая бядата пачала арганізоувацца да гаспадарак калектыуных масова. Савецкая улада старалася задаволіць калектывы трактарамі, насеньнем, штучнымі удабрэньнямі і розным патрэбным інвэнтарам. Калі у 1930 г. было усяго 158 трактарных станцыі, то ужо у 1931 г. гэтых станцыі налічвалося звыш 1227. Лік трактарау у 30 г. быу 7402 з 26 тысячамі конскіх сіл, а у 31 г. трактарау стала 46700 з 663 тысячамі конскіх сіл. Выраба штучных угнаеньняу і дастаука іх у Калхозы зьвялічылася нябывалым тэмпам. У працягу 2-х гадоу Савецкі урад улажыу у сельскую гаспадарку больш 3-х мільярдау рублеу. Многапольная сыстэма, знішчэньня межау зьвялічыла пасеуную плошчу на 30%, што спрыяла большаму збору сельска-гаспадарчых прадуктау. Зрабіць гэта пры гаспадарках характару індывід. было-б немагчыма, бо абзавесьціся трактарамі і праца імі на вузкіх палосках, ужываньне штучных угнаеньняу, знішчэньне межау абсалютна немагчымая рэч. Толькі дзякуючы калектыунай гаспадарцы і фінансавай дапамозе з боку дзяржавы сялянство эмагло выкарыстаць усі здабычы тэхнікі і навукі, павялічваючы прадукцыю свае́й працы пры меншай затраце энэргіі як якасна, так і колькасна. Апрача спажывецкай зярнявое і пладавое вытворчасьці Калхозы далі магчымасьць масова гадаваць расьліны тэхнічнага характару як

лен, хлопак, каноплі і інш. заспакойваючы патрэбы прамыслу, што было-б немагчыма пры гаспадарцы старой. Плошча займаймал культ.тэхнічн.расьлінамі за два гады пяцігодкі зьвялічылася у два разы па парауначньні з 13 годам даваенным. Калі прагледаць савецкую статыстыку, то асабліва яскрава кідаецца у вочы тое, што індывідуальныя гаспадарствы не маючы жыцьцёвае сілы не могуць абсеяць усей сваёй зямлі, а засяюць толькі 60-70% у той час калі Каухозы і Саухозы засяваюць свае плошчы поунасьцю і маюць даволі часу для іншае галіны сельскай гаспадаркі як живелагадоулі, пчалаводзтва і інш. Сялянства Савецкага Саюзу пераканаушыся у жыцьцяздольнасьці калектыуных гаспадарствау і пераканаушыся што толькі шляхам падзеньня сельскае гаспадаркі агульным высілкам, пры падтрымананьні ураду рабоча-сялянскага можна зьнішчыць адвечную беднасьць у вёсцы, якую сялянін, асабліва бедны, хварэе ад канца ажно да новага збору, добраахвотна і ахвотна уступае на гэты шлях і арганізоувае Калхозы. За тры гады рэарганізацыі сельскае гаспадаркі з спосабу вытварчасьці патрыярхальнае на спосаб машынізацыі дало вялікі пасьпех. Калі разглядаць па асобныхы раёнам, то колькасьць скалектывізаваных гаспадарств даходзіць у некатерых аж да 90%, а у агульным усесаюзным маштабе складае 68% усей зямлі. Пяцігадовы плян прадбачыць, што у канцы яго пры палепшаньні ураджаю, пры зьвялічэньні трактарау павялічэньне збору павінна быць у чатыры з палавіною раза большае чым да вайны. Сялянства калектывау ужо цяпер заспакоены хлебам на цэлы год і нягледзячы на тое што вываза збожа пяцігадовы плян на прошлы год не прадбачыу, аднак аказалася што вывазіць можна і агульны экспарт у 31 г. дашоу 22 мільёнау тон хлеба і Савецкі Саюз заняу на экспорту хлеба пурвальнь ... застауляючы узгругнуцца увесь капіталістычны мір. Другою сістэмай сельскай гаспадаркі есьць Саухозы, ці іначай дзяржауныя фабрыкі збожа, дзе сяляне працуюць на умовах рабочых на фабрыках, дастаючы за сваю працу пэуную заработную плату. Гэтая система зьяуляецца системай сацыялістычнай і з часам Каухозы павінны будуць на ее перайсьці. Саухозы арганізаваны на часці бывшых земель памешчыкау па усім раёнам Савецкага Саюзу, якія спрад забяспечваюць хлебам разам з Калхозамі. Арганізацыя працы і вельмі высокая таварная прадукцыя зьяуляецца вельмі характэрным для Саухозау. У 30 г. Саухозамі было засеяна 45 мільёнау гект., а у 31 г. аж 78 мільёнау гект. зямлі. Дзякуючы палітыцы Сав.улады у зямельным пытаньні неабходна зазначыць, што вельмі важным і дадайным высьледкам тэхнічнага, сацыяльнага і эканамічнага працэсау, якія прайшлі у СССР за апошнія два гады зьяуляецца тая радыкальная арганізацыя тое вытварчае системы і культурнае адсталасьці вескі, якія былі так характэрны для старое вескі. Прымітыунае гаспадараньне, бязьне агрономау, штучных угнаеньняу і інш. усе гэта выкарчавана і ужо ніколі не вернецца. Машыны і розныя тэхнічныя ~~ххххххххх~~ ураблеьньня, якімі дзеля падняцьця прадуктыунасьці ее, новы уклад жыцьця вескі на калектыуных падставах, палепшаньне культурнага і эканамічнага палажэньня сялян вось характэрна для Савецкае вескі. Сама буржуазія як Зах.Еуропы, так і бывшая расейская контррэвалюцыйная эміграцыя выкінёнымі з краю сілаю аружжа

рабочых і сялян павінна прызнавацца і прызнаецца што ніякая буржуазная зямельная рэформа ня можа даць сяляніну што дае рэформа Савецкай Улады і што ніякая сіла няздольна зьнішчыць тое што сяньня праводзіць веска. Сялянства капіталістычных дзяржау, а асабліва сялянства Зах. Беларусі праносячы на сваіх плячах самую радыкальную аграрную рэформу, якую можа даць і праводзіць буржуазія, камасацыю, ліквідацыю сэрвітутау, падаткавые да нязнясеньня цяжары павінна ведаць, што толькі пры той аграрнай рэформе, якая праводзіцца у Савецкім Саюзе можа палепшыць сацыяльны і нацыянальны быт вескі Зах. Беларусі ПРЫ УРАДЗЕ РАБОЧА СЯЛЯНСКІМ, ЯКІ МОЖНА ЗДАБЫЦЬ ШЛЯХАМ РЭВАЛЮЦЫІ-ШЛЯХАМ ЗБРОЙНАГА ПАУСТАНЬНЯ, выступаючы супроць камасацыі і ліквідацыі сэрвітутау, супроць падаткау; весьці барацьбу з фашызмам і яго урадам за урад рабоча-сялянскі, супроць беларускім буржуазным арганізацыям як сельсаюз, хадэцыя і санацыя.

Беларуская веска ня верыла і ніколі ня будзе верыць у іхнія абяцанкі, бачучы што яны усецэла падтрымліваюць і хваляць камасацыю, у той час як сялянства ад яе плача. Брэшуць на Савецкую Беларусь і яе аграрную рэформу. Гэтай брахні сялянства ня верыць.

Сялянін Бядняк.

------------

## ВЫБІРАЙЦЕ КАМІТЭТЫ БАРАЦЬБЫ

Цяжкае становішча, у якім апынуліся сяляне, характэрызуецца тым, што фашыстоуска-акупацыйны урад ката Пільсудзкага, рэпрэзэнтуючы інтарэсы абшарнікау і буржуазіі, а не інтарэсы найшырэйшых мас працоуных, накладая што раз большыя падаткі, праводзіць ваенные павіннасьці, шарваркі, узмацненьне арміі, будуючы стратэгічные ваенные пункты-дарогі, усе дзеля нападу на адзіную дзяржаву працоуных СССР.

Гаспадарчае жыцьце у краі замірае. Мільены работнікау і сялян засталіся без кавалка хлеба і гэтым самым утварылі мільенную армію голаду і нэндзы. Фашыстоускі урад роуналегла з пагоршэньнем сацыяльнага быту працоуных стасуе нацыянальны уціск, закрываючы беларускія школы, культурна асьветовые арганізацыі, а працаунікоу іх кідая за краты казэматау; высылая бывшых паліт.вязьняу у карэнную Польшчу, а як апошні гасьцінец прыпаднес даразные суды "Сталыпінскі гальштук", ад якіх згінула болей 30 барацьбітоу; новае асадніцтва і шмат іншых пагоршэньняу аб школах, сходах і т.д.

Па усей Польшчы праносіцца фаля страйкау і рэвалюцыйных масовых выступленьняу работнікау і сялян супроць фашыстоускага ураду, а асабліва барацьба сялянскіх мас на акупаванных землях Зах. Беларусі і Украіны. Сяляне Брэстшчыны, Маладэччыны, Навагрудчыны, Піншчыны як адзін паусталі да актыунай барацьбы супроць падаткау, шарваркау, ліцытацыі, пратаколау. штрафау, выганяючы з весак сэквэстратарау, каморнікау, экзекутарау і паліцыю. Яны далі адпор ня толькі гэтым бандытам але такожа і карным дружынам фашыстоускіх банд, а то

толькі таму што паустали усе пад кірауніцтвам сялянскіх камітэтау і масовых арганізаваных дружын самаабароны.

Сяляне галасна заявілі фашыстоускаму ураду, што падаткау плаціць ня будзем, шарваркі адбываць ня будзем, бо падаткі ідуць на узбраеньне паліцыі, шпікоу, правакатарау, шарваркі праводзяцца у зьвязку з падрыхтоукай вайны супроць СССР, а у першую чаргу БССР. дзякуючы масовай рэвалюцыйнай барацьбе, падаткі не плацяцца, шарваркі не адбываюцца, а таксама застауся праламаны кардон белага тэрору і дарэзных судоу. Паліцыянт адзін не паказваецца у веску, памятаючы барацьбу сялян падчас якой ні адзін паліцыянт, шпік, правакатар і здраднік паплаціуся жыцьцем.

Фашыстоускі урад бачучы моцны адпор сялян пайшоу на уступкі, адкладаючы падаткі і манэурыруючы іх сьцігваньне /калі у аднэй весцы сьцігваецца сяньня, то у другой праз тыдзень/, каб разьбіць адналіты фронт сялян. Аднак сяляне добра разумеюць манэуры фашыстоускага ураду, а разам з тым і свае сілу у масовай барацьбе.

СЯЛЯНЕ. ЧАГО-Ж МЫ ЧАКАЕМ ЯК АДЗІН ДА БАРАЦЬБЫ СУПРОЦЬ падаткау, шарваркау, камасацыі, парцэляцыі, ліквідацыі сэрвітутау, ліцытацыям і фашыстоуска-акупацыйнаму ураду, які прыпадносіць новы праект асадніцтва як вайсковага, так і цывільнага на землях Заходняй Беларусі.

СЯЛЯНЕ. ПРЫСТУПАЙЦЕ ДА НЕАДКЛАДНАГА ВЫБАРУ СЯЛЯНСКІХ КАМІТЭТАУ АКТЫУНАЙ БАРАЦЬБЫ. Склікайце сходы, масоукі на якіх высьвятляйце неабходнасьць такога камітэту і прыступайце к выбару. У камітэты павінны уваходзіць батракі сэзонные работнікі і камітэт мая сразу прыступаць да працы палягаючай у абароне сялян ад уціску падатковага, шарварковага, ліцытацыйнаму і нацыянальнага і т.д. Каб гэтую барацьбу аблегчыць і зрабіць яе непахістнай пабеданоснай, камітэт арганізуе масовые дружыны самаабароны, а дзеля кантакту паміж камітэтамі паасобных весак арганізуюцца дзеці, роль якіх будзе палягаць на перадачы у суседнія вескі весткі у разе нападу паліцыі, сэквэстратарау, каморнікау і т.д. Камітэты робяць падзел працы паміж сябрамі, ствараюць камісіі: камісіі супроць падаткау, шарваркау, ліцытацыяу, камасацыі, па арганізаваньню масавых дружын самаабароны, а так-жа па арганізаваньню такіх-жа камітэтау у суседніх весках, калі такіх там няма. Ва усе гэтыя камісіі уваходзіць і сябра камітэту які і зьяуляецца адказным за працу перад камітэтам, а камітэт перад выбаршчыкамі.

Такім чынам усе сяляне прымаюць актыуны удзел у барацьбе супроць ворагау працоуных, але павінны памятаць, што у масовай барацьбе сіла.

КАМІТЭТЫ БАРАЦЬБЫ павінны весьці барацьбу не толькі супроць канкрэтных формау уціску, але барацьбу за школу у роднай мове на кошт ураду і павінен выступаць плечо з плечом з пралетарыятам супроць фашызму беларускіх і іншых сацыял і нацыянал фашыстоу ЗА САЦЫЯЛЬНАЕ І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ВЫЗВАЛЕНЬНЕ.

К. М.

-----------